ВЫДАНЬНЕ «ВОЛЬНАЕ БЕЛАРУСІ».

**Я. Лёсік.**

# Аутаномія Беларусі.

Цана 20 кап.

МІНСК.
Друкарня Н. М. Нахумова
1917.

ПРАДМОВА ДА 2-ГА ВЫДАНЬНЯ

Гэтую кніжачку вы ня знойдзеце ні у воднай бібліятэцы на Беларусі, нават у "спецхранах" "Ленінкі" і "Акадэмкі". Тыраж зьнішчаны яшчэ у 1922 годзе. "Книга Лесика "Аутаномія Беларусі" была запрещена к распространению как "шовіністіческого характера" 26/XII-22г." - паведамляу чэкіст Апанскі сакратару ЦК КПБ/б/ Крыніцкаму.

Артыкул "Аутаномія Беларусі" быу напісаны Язэпам Лёсікам у верасьні 1917 г. і вышау асобнай брашурай праз месяц, у кастрычніку... Думаю, што гэтая праца аднаго з буйнейшых дзеячоу нашага Адраджэньня будзе гучаць даволі актуальна зараз, калі праблемы незалежнасьці, суверэнітэту Беларусі хвалююць усё нашае грамадзтва. Трэба толькі памятаць, што артыкул пісауся тады, калі у беларускіх нацыянальных колах пераважала ідэя аутаноміі, а не поунай незалежнасьці. Яшчэ не адбылася Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя і разгон Усебеларускага Кангрэсу у сьнежні 17-га, яшчэ ня было Берасьцейскага мірнага дагавору, дзе улічваліся любыя інтарэсы, апроч беларускіх...

І яшчэ адна каштоунасьць кнігі. У 17-м годзе яшчэ не існавала агульнапрынятага беларускага правапісу. Гэты варыянт быу створаны самім Я.Лёсікам і ім выдавалася газэта "Вольная Беларусь".

З-за кепскага захаваньня арыгіналу немагчыма было факсімільнае узнауленьне выданьня. Падабенства захоувае толькі вокладка. Тэкст жа перабраны на машынцы з супадзеньнем старонак, радкоу, пераносау і правапісу. Толькі грубыя наборныя памылкі былі выпраулены пры апрацоуцы.

Алесь [illegible]кін

1990 г.

I.

Магутным рухам народау Расіі зруйнованы муры маскоускага царызму. Апалі кайданы пякельнай пакуты, паламаны ёрма няволі й нядолі і усе народы Расіі вышлі на вольны шлях жыцця. Празваніу звон волі і ўстае з руін занападу наша айчына, наша бацькаушчына Беларусь. Заруніцца яна жытам-пшаніцаю і заквітнея цьветам-калінаю!

Але ні усе яшчэ разумеюць у нас, на што здаліся нам новыя парадкі. Ні кожнаму зразумелы інтарэсы народа. Ні усім відна выгода ад самабытнасьці і аутаноміі. Шмат ёсьць і да гэтага часу прыхільнікау адсталасьці і русіфікацыі Беларусі. Шмат каму ні пад густ наша адраджэньне, і часта можна чуць, як верадуюць ворагі нашы і крычаць хвальшывыя заступнікі долі народнай, пратэстуючы проці нацыанальнай нізалежнасьці нашай і асьветы народа у яго роднай, спрадвечнай мові. Але гісторыя сьведчыць, што ня было тае справы, ня было такой ідэі, якая-б не нажыла сабе ворагау. Гэта яны, гасіцелі прауды, распіналі Хрыста, палілі Гуса і білі прарокау...

Заувважыушы гэта, мы павінны памятаць і заусюды трымаць на увазі, што беларусы - народ асобны і ніпадобны ні да расійцау, ні да палякоу, а, значыцца, і патрэбы мы маем асобныя, свае беларускія, адметныя і нават нізгодныя с патрэбамі расійцау, палякоу ці якога іншага народу. Кожны разважае свае справы па-своему, на карысьць свайго уласнага жыцця, дзеля гэтага і мы павінны мяркавацца с тым, што вымагаецца варункамі

нашага жыцця, што карысна нам і што спрыяе нашаму нацыянальнаму, культурнаму і гаспадарскаму дабрабыту.

Але што ж будзе, калі мы забудзямся аб сваіх беларускіх патрэбах і сапраўды згодзімся с тымі, каторыя кажуць, што у дзяржаві Расійскай трэба зрабіць адзін парадак, аднакі для усіх народаў Расіі? А будзе тое, што маскоўцы пабудуюць гэты парадак на свой густ, дапасуюць яго да патрэб свайго жыцця і зямлю, напрыклад, падзеляць так, як яны звыклі карыстацца ёй спакон веку. Усё гэта трапіцца з намі, калі мы станем слухаць тых "дабрадзеяў", што ня прызнаюць нас за асобны народ, ня лічаць нас за беларусаў, каторыя кажуць, што у нас сваё мовы німа і нам ніпатрэбна яна, што мы павінны парабіцца расійцамі або палякамі, дзеля чаго, моў, будуйце у сябе школы расійскія ці польскія, а ні свае, беларускія. Іншыя кажуць гэта наўмысьля, а другія, проста, па нідавумству і глупству. А то бывае і так, што чалавек, як расійскі сацыяліст, напрыклад ня ведае ні нас, ні жыцця нашага. Ён нават і шчыра хацеў-бы зрабіць нам дабро, дык ня можа і сваёю фатыгай толькі псуе нам і нарабляе шкоды, бо, ня ведаючы ні нас, ні жыцця нашага, шые абутак для нас на свой уласны, маскоўскі капыл. Разумеяцца, такі абутак будзе заўсёды муляць нам і далокаць пры ужываньні.

Ніхто лепяй ня ведае нашых патрэб як мы самі: ніхто ні завядзе лепшага парадку у гаспа-

дарцы, як сам гаспадар. Калі мы папусьцімся і аддамо развагу сваіх патрэб у рукі чужынцау, або сваіх вырадкау, што адракліся і нас і мовы нашае, дык яны усё зробяць так, як гэта добра для жыцьця на Маскоушчыні, або дзе небудзь у Польшчы. Канец канцом мы сьцямім і схамяномся па часі, што нарабілі сабе бяды, але будзе позна. Нас заусюды запыняць і скажуць: "Ня вярадуй, васпан, - скачы, уража, як пан кажэ!.."

Вось дзеля таго, каб ухіліцца ад усіх гэтых прыкрых зьявішч, каб ня папасьціся пад загад і кірауніцтва чужынцам, каб потым ні скардзіцца, ні вярадаваць, праклінаючы жыцьцё сваё па часі, каб ні клялі нас дзеткі нашы, злыніушыся праз нас, праз нідавумства і нідбаласьць нашу, у нацыянальным палоні у чужынцау - маскоуцау або палякоу, - дзеля усяго гэтага мы і павінны дамагацца аутаноміі для свайго краю, аутаноміі Беларусі. У вольнай дзяржаві ніхто ні мае права забараняць жыць так, як народ сам таго хоча, абы ня перашкаджала гэта вольнаму жыцьцю другога народу, бо кажуць, што кожны народ мае права на самаацзначэньне, т.-е. мець свае парадкі, вучыцца і гаварыць сваёю мовою, словам, жыць уласным жыцьцём, развіваючы сваю культуру і свой гаспадарскі дабрабыт. І калі народ у дзяржаві жыве сваім уласным жыцьцём, калі ён мае свае парадкі, свае законы і установы у сваём родным краю і ніхто яму ні перашкаджае, дык і кажуць, што гэты народ жыве аутаномна. Аутаномна жыве Ір-

ландзія,Трансваль/буры/ у Англіі, на грунці аўтаноміі пабудавана жыцьцё усіх краёў у Амэрыцы. Усе культурныя, асьвечныя людзі дамагаюцца аўтаноміі, а гэта знача, што і мы, беларусы, ні павінны прыставаць ад іх, каб ня заблудзіць, ды ня згінуць у цемры. Хто хоча сабе дабра, той ня скажа, што яму ні патрэбна аўтаномія. Толькі цёмны, забіты народ можа гэта сказаць...

Нашы селяне на зьездах выстаўляліся у тым сэнсі, што ім ні патрэбна аўтаномія, але-ж рабілі яны гэта па нідавумству і цямнаце сваёй, а найбольш па падашуканству, бо разам з гэтым яны казалі,што і мова іх ім ні патрэбна.Ніхто на сьвеці ні адрэкаецца ад свае мовы, - і немцы, і пранцузы, і палякі, і расійцы, чэхі і баўгары шануюць і любяць сваю мову, а нашы селяне - адрэкаюцца. Значыць, - робяць яны гэта па нідавумству і цемнаце. Ведаючы, што наша сялянства забіта і цёмна, ворагі Беларусі карыстаюць з гэтага і кажуць: "запытайце у народу". А хіба, спытаем мы іх, рэвалюцыянэры пыталіся у народу, як учынялі рэвалюцыю? Хіба яны ні ведалі, што народ, па цемнаце сваёй мог спалохацца, ды выславіцца за тое, каб цара ні чапалі? Яны гэта ведалі і рабілі так, як яно па разумнаму дасьледу выходзе лепяй і карысней.

Яшчэ ворагі беларушчыны кажуць, на што будаваць беларускія школы, калі народ іх ні хоча? Народ... Як жа народ запатрэбуе сваіх беларускіх школаў, калі ён іх нікол і ні бачну і нічагутка у

гэтай справі ні цяміць? Дзіуная гэта звычка у людзей пасылацца на народ там, дзе яно саусім ні да рэчы. У ваусіх іншых пытаннях мы зьвяртаемся да знауцау і спэцыялістау, а вот пры дзяржауным адбудаванні здавальняемся думкамі такіх майстрау, як цёмны, нікультурны народ, каторы у халерны год забівау дактароу, а у час рэакцыі лавіу ды выдавау царскай паліцыі рэвалюцыянерау, паламаушы ім рэбры... Народ добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асьвяціць, навучыць, а ужо потым клікаць да сябе на параду...

II.

Да гэтага часу Расія была і покі што застаецца дзяржаваю ні хауруснаю, або, як кажуць, ні фэдэратыунаю. Ні воднін народ у Расіі ня меу аутаноміі, а жыу так, як загадвалі яму с Петраграду цар і яго служкі. Манархічная Расія уяуляла с сябе вялізарную казарму, дзе павінны былі жыць адным парадкам, слухаць аднае каманды. Усе народы і краі Расіі былі цесна зьвязаны паміж сабою, але ні добрахвотным пярэвяслам братэрскага пачуцьця, а прымусам і прынукаю, ланцугамі царскага самадзяржавія, на кшталт таго, як зьвязывалі калісь катаржнікау, заганяючы іх у Сібір.

Німа чаго казаць, што такое супольнае жыцьцё народау ні мае жаднай вартасьці, і пры першай прыгодзі рвецца, як гнілая нітка. Толькі дабрахвотная, палюбоуная супольнасьць моцна зьвяз-

вае людзей і стварае грунтоўную і магутную дзяржаву. Гэта мы бачым на прыкладзі Англіі, Амэрыканскіх Злучаных Штатаў і самой Гэрманіі, с каторай мы цяпер ваюем. У гэтых дзяржавах ні толькі кожны асобны народ, але і кожная асобная па жыцьцёваму укладу частка дзяржавы мае свае парадкі, свае законы і установы. Раней за усіх зразумела патрэбу і ніухільнасьць аутаноміі Англія. Праўда, дарага гэта ёй каштавала, - за сваю навуку яна заплпціла стратаю багатае калёніі - Пауночн. Амэрык. Злучаных Штатаў, але раз дасьведчнушыся, што сіламоц нікога утрымаць нельга, яна павярнула на іншую дарогу і цяпер сама спрые і дапамагае завядзэнню аўтаномнага ладу. Сваёю разумнаю палітыкай яна утрымала за сабою Канаду, частка якой хацела прылучыцца да суседніх Злучаных Амэр. Штатаў і умапавала прыхільнасьць прылучаных да сябе вайною бураў у Афрыцы. За цяперашнюю вайну гэтыя калёніі многа дапамаглі Англіі грашмі, людзьмі і ваеннымі прыладамі, хоць маглі і ня рабіць гэтага.

Усе гэтыя прыклады сьведчуць пра тое, што аўтаномны лад дзяржавы ня аслабляе і ня разлучае дзяржаву, а, наадварот, спрые таму, каб яна узмацнялася ды зноў злучалася нават тагды, калі распад ужо пачаўся. Значэ, тыя людзі, што палохаюць распадам дзяржавы пры завядзэнні аўтаномнага ладу, ня маюць пад сабою жаднага грунту. Яны або кепска дасьведчаны у гэтым пытанні, або наўмысьля, маючы на увазі уласную карысьць і

рахуючы выкарыстаць чужую нідасьведчнасьць, пускаюць байкі пра шкадлівы уплаў аўтаномнага ладу. Гэта трэба запамятаць і, адхіліушы усялякія нагаворы, як мага дамагацца аўтаномнага ладу для свайго роднага краю. Мы павінны мець свой беларускі парлямэнт, сваю Беларускую Краёвую Раду, цалкам нізалежную у межах свайго краёвага законадаўства ад цэнтральнага, агульнадзяржаўнага ураду. Толькі такія справы, як зносіны з заграничнымі дзяржавамі, мытна, грашавая сыстэма, вярхоўнае кіраўніцтва ваеннымі сіламі, важнейшыя залезныя дарогі, - павінны знаходзіцца пад загадам агульнадзяржаўнай уласьці, каторая, гэтак сама, павінна складацца с прэдстаўнікаў усіх нацый і краёў. Агульнадзяржаўная уласьць павінна быць прэдстаўніцай усіх людзей, усіх народаў і краёў і іх аб'еднаць.

Мала дабіцца рэспублікі, трэба дамагацца яшчэ і таго, каб рэспубліка была і фэдэратыўнай, або хаўруснай па латыні, кожны край, кожны асобны народ каб меў сваю аўтаномію. У Францыі рэспубліка існуе ужо больш соткі год, але яна цэнтралістычна. Там, як і у нас цяпер і як было гэта пры царызму, усім загадваюць міністры с Парыжу, а міністраў вызначае агульна-дзяржаўны парлямэнт. Пры кожнай перамені большасьці у парлямэнці, зьмяняюцца і міністры. Жыцьцё валтузіцца кожны раз пры зьмені загадчыкаў-міністраў. У самых дробных мейсцовых справах трэба чакаць дазволу і ласкі цэнтральнага правіцельства.

Такая рэспубліка нас ня здавольняе. Мы усе паталіліся страшным і прыкрым цэнтралізмам старога, скінутага рэжыму і ня хочам, каб ён жыу далей, хоць бы і пад рэспубліканскім чырвоным сьцягам. Мы хочам, каб у нашым краю будавалі сваё жыцьцё нашы людзі і каб у нашы беларускія справы не мешалася цэнтральная уласьць з Масквы ці с Петраграду. Мы хочам, каб зьнікла нарэсьці тая абрыдлая, да сьмерці шкадлівая, розьніца паміж дзяржаунаю і нідзяржаунаю нацыяй, каторая высмоктвала з нас усе нашы сілы. Мы хочам, каб усе народы былі дзяржаунымі на сваёй зямлі.

Усе у адзін голас кажуць, што Беларусь самы бедны край, а народ наш самы цёмны пасярод народау Расіі, але ніхто дакладне ня расказау, чаму гэта так, чаму Беларусь, калісь складаушая магутнае Літоуска-Рускае гасударства, ня ведаушая татаршчыны, дыктаваушая сваю волю Маскве, прылучыушая да сябе усю багатую Украіну, - чаму цяпер дайшла да такога занепаду? Беларусь наша бедна, а народ наш цёмны ні за тым, што ён горшы за другіх, або ня мае здатнасьці да навукі і прасьветы. Нядоля наша у тым, што мы, страціушы сваю нізалежнасьць, па цяжкім умовам гісторні, ня здолялі адстаяць сваю нацыянальную самабытнасьць і сталі папасам для суседзяу, спажыткоунаю нівою для чужынцау. Яны высмоктвалі з нас апошнія сокі, адбіралі у нас нашых лепшых людзей /Міцкевіч, Касьцюшка, Дастаеускі/ і зруу-

навалі краіну нашу да сучаснага становішча. Але гэта мінулася, ні дарма настала свабода. Мы павінны дабіцца сабе аутаноміі і стварыць у сябе свае уласныя беларускія парадкі і зажыць сваім уласным беларускім жыцьцём. Годзі быць парабкамі для чужынцау, годзі карміць чужынцау сабе на згубу і пастаянную пакуту. Аутаномія для нас - пытанне жыцьця і сьмерці. Калі мы любім свой край, калі жадаем сабе лепшае долі, калі абрыдзела нам парабецтва, калі мы ня страцілі да шчэнту свайго нацыянальнага гонару і ня рашыліся чалавечнай вартасьці, - дык мы павінны стаць на уласныя ногі. Мы павінны дамагацца самакіравання, бо цэнтралізм маскоускі і уплыу польскі заесьць нас дазвання. Цэлыя соткі год нас апалячвалі, больш ста год нас амаскалівалі, але ні паланізм, ні русіцызм ня кранууся народу нашага ані звання. Народ у істоці сваёй застауся ніпарушаным. У гэтым наша сіла, наша збавенне і залог сьветлай будучыны.

III

Утварыушы аутаномны лад на Беларусі, мы станем поунамоцнымі гаспадарамі на сваёй зямлі і адтрымаем поуную магчымасьць павернуць усе скарбы нашага краю на карысьць свайго народу, на свае нацыянальныя патрэбы, дзеля разьвіцыя культуры і гаспадарскага дабрабыту. Тагды беларускія працоуныя масы, каторыя на працягу цэлых вякоу абдзіраліся і выкарыстовываліся дзеля росту і панавання багатых станау, чужых ім як па нацыя-

нальнасьці, так і па культуры,- і дзеля развіцьця гэтай чужой культуры,- дастануць змогу выйсьці на вольны шлях эканамічнага і культурнага развіцьця і збавяцца ад свайго занепаду матэрьяльнымі і духоунымі скарбамі свае зямлі. Тагды можна будзе ужыць усіх багатых заходау дзеля развіцьця усёй поунаты беларускага культурнага і палітычнага жыцьця, далучыушы да гэтага шырокія народныя масы, увесь працоуны народ, коштам каторага да гэтага часу выраслалі толькі чужакультурныя станы і іх эканамічныя і палітычныя уплывы.

З эканамічнага боку вельмі важна, каб дастаткі беларускае зямлі і людзкая сіла нашага краю ня марнаваліся дарэмна ды ня перацягваліся наумысьля на чужы бок рознымі штучнымі і прыватнымі эканамічнымі рахункамі з вялікаю шкодаю для краю і дарэмнаю стратаю для усяго нашага народу, а каб ужываліся мудра, маючы на увазі інтарэсы свайго краю і дабрабыт свайго народу. Беларусь уяуляе с сябе асобную краіну, с сваім уласным выразным тварам і жыцьцёвым укладам. Яна,як трэба,абдарована усякімі природнымі умовамі для эканамічнага разьвіцьця і поступу. Яна мае свае рэчкі, горы, радзючы грунт, многа лугоу для гадоулі гавяды, вялікія запасы лесу, а - перш за усё і важней за усё - народ працавіты, старанны, крэпкі, здольны і цямушчы, што пры самых цяжкіх умовах свае гістарычнае долі здолау паставіць свае земляробства вышэй за усіх у Расіі. Ня гледзючы на свой пясчаны грунт, зямля наша ро-

дзіць добра і, дзякуючы разумнай працавітасьці народу нашага, Беларусь ня бачыла павальнай галадоулі, - гісторыя ня ведае такога здарэньня, каб дзяржаўная казна прыходзіла да нас на дапамогу сваімі коштамі, як гэта рабілася на Маскоўшчыні і па іншых кутках Расіі. Зямля там бадай што і лепшая, ураджайнейшая за нашу, але народ маскоўскі/вялікарусы/ да таго нікультурны, ніцбалы і ніумелы, што галадаў амаль ня кожнае пакаленьне. Пры самых цяжкіх варунках беларус ні траціў дацэнпнасьці і быў гаспадаром свайго становішча. Адным словам, - Беларусь мае усё патрэбнае, каб зрабіцца краем цьвітучым і багатым, а ні такім занепалым і занедбаным, якім стаўся ён пад загадам маскоўскай дзяржаўнасьці. І мы усе грамадзяне зямлі беларускай павінны далажыць усіх сіл, каб скінуць с сябе апякунства чужынцаў і збавіць край наш ад кіраўніцтва маскоўцаў. Гэта мы павінны зрабіць, бо грубое, нікультурнае уладарства Масквы зьнішчыць край наш да шчэнту і прывядзе яго да загібелі, як яно вынішчыло і загубіло дзяржаву Расійскую. Нам трэба дабіцца, каб кіраўніцтва эканамічнымі і грамадзянскімі справамі належыла да самага краю, да яго аўтаномнага краёвага Сойму. Тагды Краёвая Рада, кіруючыся інтарэсамі і дабрабытам свайго народу, ні цазволіць, каб цэнтральны урад рознымі тарыфнымі штукамі і мытнаю палітыкай калечыў разьвіцьцё нашае прамысловасьці і гандлю; тагды краёвы урад ні папусьціцца, каб нашу эканамічную энэргію і сыровы працукт пера-

цягвалі штучна да розных поза-краёвых фабрычна-прамысловых районаў; тагды ня будзе таго, каб цэлы край, заселены народам с сьветлай і вялікай гісторыяй, пазбаўлен быў вышэйшых навучных інстытуцый і праз соткі год ня мог вярнуць таго, што у яго адабралі гвалтоўна /Віленскі унівэрсітэт/. Дзеля усяго гэтага нам патрэбна аўтаномія. Нам патрэбна аўтаномія, каб запэўніць беларускаму хлебаробу як найбольшы прыбытак, а беларускаму пралетарыю - як найвышэйшы заработак, каб даць сваім людзям работу дома, на мейсцы, на грунці уласнай беларускай прамысловасьці і каб нашы людзі ня вандравалі, шукаючы заработкаў, у сьвет на чужыну, дзе і сам работнік і яго рабочая сіла прападалі для нашага краю. І мала таго, што наш работнік, трапіўшы у чужы край, пераймаўся чужынцчынаю і навекі гінуў для роднага краю, але, апарт таго, вярнуўшыся да дому, ён нарабляў шмат шкоды, пашыраючы дэнацыаналізатарскую заразу.

С пагляду на культурнае становішча нашага краю становіцца ясна, што толькі пры аўтаномным ладзі пачне расьці і квітнець культура, навука, літэратура і умеласьць здольнага і багата абдараванага нашага народу. Толькі пад загадам аўтаномнага ладу народ наш, с прычэпу да агульнадзяржаўнага будаўніцтва, вырасьце у магутную асобную расьліну - заваюе сабе пачэснае мейсца у сьвеці, стаўшы поплеч з народамі Эўропы. Узгадаваўшы культуру багатую, моцную і арыгінальную, разгар-

нуўшы усю сваю вялікую здольнасьць, народ наш стане цэнтрам у сваём краю і сваёю літэратураю, навукаю і мастацтвам звяжа шчыраю любоўю усе народнасьці Беларусі, каторыя, у сваю чаргу, аддадуць усе свае сілы і розум на карысьць супольнай айчыны, на дабро і пыху роднага краю. Усё гэта так важна, проста і ясна, што сапраўды, трэба улажыць усю сваю душу, аддаць усе свае сілы, каб утварыць сьветлую будучыну сваёй бацькаўшчыні, здабыўшы шырокую н а ц ы а н а л ь н а - тэрыторыяльную аўтаномію для Беларусі. "Падумайце,"- піша праф. Грушэўскі,- "якая гэта будзе эканомія часу і энэргіі, колькі адпадзе дарэмных турботаў...Адпадзе уся барацьба за нацыянальнае права, якая пастаянна валтузіла і затрымоўвала эканамічны і палітычны поступ... Ня трэ' будзе пакладаць свае здольнасьці і энэргіі на заходы каля палагоджаньня сваіх нацыянальных і краёвых спраў у агульнадзяржаўным парлямэнце, ні патрэбны будуць хітрыя партыйныя камбінацыі, каб правесьці сваю справу, ня трэ' будзе "абрабляць" расійскае ліберальнае грамадзянства і іншыя расійскія партыі, каб прыхіліць іх да сваіх нацыянальных і краёвых патрэб. Даволі гэтага! Даволі мы мелі гэтага пры змарлым рэжымі і добра ведаем, як прыемна ставацца да расійскага грамадзянства! Няхай яно жыве, здарова, як само хоча, а нам трэба свае справы разважаць у сябе дома, у сваём краёвым сойме і толькі тое нівялічкае, што датычыцца усяе дзяржавы, мы разважым супольна на агульным

прэдстауніцтві Расійскай фэдэратыунай рэспублікі."

Але ня досыць адтрымаць аутаномію хоць-бы і самую поуную. Трэба яшчэ падбаць аб тым, каб сама дзяржава, у склад каторай Беларусь мае увайсьці, была пабудавана на цьвёрдым фэдэрацыйным грунці, каб гэта была дзяржава д э м а к р а т ы ч н а я і фэдэратыуная. Чаму-ж гэта важна і дзеля чаго гэта трэба?

"Рэч простая," - піша вышэй памянёны проф. Грушэускі у сваёй брашуры "Якой мы хочам аутаноміі і фэдэрацыі", - "калі мець нават шырокую палітычную аутаномію свае нацыянальнае тэрыторыі, але калі дзяржава, с каторай яна будзе злучана, застанецца дзяржавай цэнтралізованаю, дык хоць-бы аутаномія была забязпечана на моцы канстытуцыйнай хартыі, - тым часам становішча яе ня будзе поунае і адносіны яе да дзяржавы ня будуць добрыя. Наша старая гэтманская Украіна, - чытаем мы далей, - мела шырокую аутаномію, была праудзівай дзяржаваю, а як зьвязалася с цэнтралістычнаю Маскоускаю дзяржаваю, дык яе аутаномія стала на дрыгвяную плошчу. Да таго часу тая аутаномія трывала, покі маскоускі урад /Петра І/ ня пачуу сябе дужым ды ні наважнуся зламаць свой "трактат з Багданам Хмельніцкім". І зламау." Гэтак сама было і з Беларусью. На моцы Люблінскай уніі /1569 г./ яна злучылася с Польшчай у адну Рэчпаспалітую /дзяржаву/ як роуная з роунай і вольная з вольнай, а тым часам стрэу яе аднакі лёс з гістарычнай доляй Украіны. Тое самае мы бачым і

на прыкладзі Фінляндзіі. Яна мела сваю канстытуцыю, покі расійскі урад яе ня скасаваў. Нават Катарына II, прылучаючы прымусам Беларусь да Маскоўшчыны, дакляравала захаваць яе вольнасьці і права паводлуг старых звычаяў і прывілеяў "на вечныя часы", але усім нам ведама, колькі трывалі гэтыя "вѣчныя времена". Скончылася тым, што паступовая русіфікацыя Беларусі, аб якой Катарына II пісала графу Разумоўскаму, была увенчана страшэнным у сьвеці гвалтоўствам, - забаронаю ужываць беларускую мову.

На мосьці гэтага гістарычнага і палітычнага дасьледу, мы павінны дамагацца, каб усе часткі Расійскай Рэспублікі былі ні толькі аўтаномнымі правінцыямі, а і дзяржавамі, злучанымі паміж сабою ф э д э р а ц ы й н ы м /хаўрусным/ перавяслам на грунці агульнага інтарэсу, супольнае патрэбы і узаемнай дапамогі. І толькі тагды становішча Беларусі будзе забязпечана і адносіны яе да Расійскай Рэспублікі будуць шчырыя і пэўныя, калі гэта станецца, або калі справы аўтаномнага жыцьця злучаць усе народы Расіі у адзін вольны дзяржаўны хаўрус - фэдэрацыю. А гэта будзе, бо яно вымагаецца і жыцьцём і гістарычным поступам народаў Эўропы. Так, гэта будзе, бо павінна быць, калі хоча таго жыцьцё, калі у гэтым прагрэс і культура усяго чалавецтва.